


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

7 чэрвеня 2002 года
№ 23 (372)
Выходзіць па пятніцах

Панас Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёна



### Гарачай вады не будзе

**ВІЛЕЙКА**. Гарачую ваду ў абяцаныя тэрміны не ўключылі. Зацягваецца апрасоўка. Начальнік раённых цепласетак Мікалай Баравы тлумачыць гэта вялікай колькасцю парываў. Дата ўключэння гарачай вады ў Вілейцы пакуль невядомая.

**Ірына РАБУШКА.**

### Новы краязнаўчы музей

**АСТРАВЕЦ**. На мінулым тыдні ў Гудагайскай сярэдняй школе адкрыўся краязнаўчы музей.
Арганізатар адкрыцця – настаўніца рускай мовы Марыя Васілёнак. У музеі сабраны матэрыялы нашага земляка прафесара Адама Мальдзіса, мастакоў Алега Драбышэўскага, Яўгена Мальдзіса і Льва Дабжынскага. Ёсць звесткі пра мінуўшчыну Гудагая і развіццё адукацыі мясцовых школ. Створана экспазіцыя аб гісторыі калгаса "Шлях Леніна".

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

### Ледзь не пагуляў у вайну

**АШМЯНЫ**. Вучань 5 класа гарадской школы на беразе ракі Гальшанка знайшоў гранату часоў Вялікай Айчыннай вайны. На шчасце, пра "тайнік" даведаўся дырэктар школы, які выклікаў міліцыю і сапёраў. Знаходку ўзарвалі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Лепшыя школьнікі пабагацелі

**МЯДЗЕЛ**. Упершыню вучні школ раёна атрымалі стыпендыю ад райвыканкома. Уручылі яе 29 вучням, агульная сума склала звыш мільёна рублёў. Атрымалі заахвочванне дзеці, якія вызначаліся на прадметных алімпіядах у вобласці і рэспубліцы, на культурных мерапрыемствах, лепшыя спартсмены. Стыпендыя выплачваецца раз на год.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Свята вёскі Пагост

**ВІЛЕЙКА**. 2 чэрвеня жыхары Пагоста адзначылі свята вёскі. Яно традыцыйнае і заўсёды праводзіцца летам.
Аграном Іосіф Манулік расказаў гісторыю стварэння вёскі, а вакальная група спявала прыпеўкі пра жыхароў. Таксама павіншавалі з залатым вяселлем Іосіфа і Браніславу Вільтоўскіх. Напрыканцы вызначылі містэра-гаспадара (Іосіф Манулік) і міс-гаспадыню (Лія Пузыня). А самай малодшай жыхарцы вёскі – 2-месячнай Вераніцы – прысвяцілі песню.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**



## Надвор'е на выхадныя

Субота, 8 чэрвеня

**Мінск**
9°С (уначы)
21°С (удзень)



**Вільня**
10°С (уначы)
21°С (удзень)



Нядзеля, 9 чэрвеня

**Мінск**
9°С (уначы)
21°С (удзень)



**Вільня**
10°С (уначы)
22°С (удзень)






Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Прыпынак Селівонаўка. "Гэтага месца ёсць чаго баяцца, – гаворыць касірка Надзея Божка. – Вакол б'юць, гвалцяць. А сажалку побач лепш бы засыпалі. Не было б куды хуліганам з'язджацца".**

# Селівонаўка – пагроза жыццю

**Наступіла лета, а з ім і доўгачаканыя канікулы. На гэты час улюбёным месцам адпачынку ў падлеткаў становіцца сажалка, якая знаходзіцца каля прыпынку Селівонаўка. Ужо даўно гэты прыпынак стаў месцам здзяйснення злачынстваў непаўналетнімі.**

Не стаў выключэннем і гэты год. На праваслаўны Вялікдзень, 5 мая, групай маладых людзей, сярод якіх было двое непаўналетніх, быў збіты мужчына і яго спадарожніца. У мужчыны адабралі асабістыя рэчы і спалілі пінжак. У выніку пацярпеўшага забрала брыгада хуткай дапамогі, а падлеткі былі змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання Маладзечанскага ГРАУС. У далейшым трое маладых людзей былі арыштаваны на перыяд папярэдняга следства.

Асобую трывогу выклікае рост правапарушэнняў, якія складаюць пагрозу небяспечнаму руху цягнікоў і здзяйсняюцца ў асноўным падлеткамі ва ўзросце 10-15 гадоў. На рэйкі кладуць розныя прадметы, цягнікі закідваюць каменнямі. На прыпыначным пункце Заскавічы ў 4 гадзіны раніцы кінутым каменем было разбіта шкло ў кабіне машыніста пасажырскага цягніка. Толькі па шчаслівай выпадковасці ніхто з чыгуначнікаў не пацярпеў. На прыпынку Селівонаўка амаль штодзённа рэгіструюцца факты накладання камянёў на рэльсы, закідвання цягнікоў камянямі. І гэта робяць падлеткі, якія прыязджаюць адпачыць з Маладзечна. Мала таго, што непаўналетнія, без мэты знаходзячыся на аб'ектах транспарту, ствараюць правапарушэнні , але і падвяргаюць свае жыцці непасрэднай небяспецы.

**Даведка**: праход па чыгуначных пуцях ва неўстаноўленым месцы цягне за сабой адміністрацыйную адказнасць, а за пералічаныя ў гэтай публікацыі правапарушэнні на аб'ектах чыгуначнага транспарту прадугледжаны штрафы ў памеры да 10 мінімальных заработных плат.

**Вадзім КУЛЯШЭЎСКІ, начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх Маладзечанскага АУС па транспарце.**

# «Пагоня» – бойка на судзе

**У сераду міліцыянеры збілі людзей, якія прыйшлі на суд журналістаў ПАГОНІ Маркевіча і Мажэйкі.**




Фота IREX/ProMedia.

**Мікола Маркевіч (злева) і Павел Мажэйка (справа) у зале судовага паседжання ў аўторак.**

Пад канец перапынку, які быў абвешчаны праз гадзіну пасля пачатку працэсу, міліцыя закрыла дзверы ў будынак суда і каля 50 чалавек, якія прыйшлі на працэс, засталіся на вуліцы. У той час, калі міліцыя прыадчыніла дзверы, каб прапусціць сакратара амбасады ЗША Яна Тернера, абураны натоўп памкнуўся за ім. Міліцыянеры, адціскаючы людзей, пачалі іх збіваць.

– Нас не пускалі, пхалі і білі, – расказвае гарадзенка **Ірына Салей**, якая была сведкай эксцэсу.

У бойцы было разбітае шкло ўваходных дзвярэй суда. Аляксей Маркевіч, брат Міколы Маркевіча, быў паранены разбітым шклом. Да 22-гадовай Святланы Нех, якую міліцыянер моцна ударыў па галаве, выклікалі хуткую дапамогу ў залу суда.

Міліцыя не здолела спыніць людзей, пасля перапынку ў зале суда было каля 100 чалавек. Суддзя Клімава адмовілася каменціраваць гэты інцыдэнт.

Перапынак, пад час якога адбылася бойка, быў абвешчаны для разгляду хадайніцтва аб адводзе суддзі. Працэс праходзіў у маленькай зале, дзе не маглі размясціцца ўсе жадаючыя. Каля 60 чалавек міліцыя не пусціла, і яны чакалі каля зачыненых дзвярэй зала. На пачатку працэсу Мікола Маркевіч хадайнічаў аб пераносе разгляду справы ў большую залу, каб забяспечыць галоснасць працэсу. Калі суддзя Клімава адмовілася задаволіць хадайніцтва, Маркевіч абвясціў хадайніцтва аб адводзе суддзі. Хадайніцтва задаволена не было.

5 мая працэс быў у чарговы раз перанесены на 6 мая. Калі газета рыхтавалася да друку, аб яго выніках вядома не было.

**Паводле www.pahonia.com**

## Дыпломы Старых Дарог

**ВІЛЕЙКА. Ткачыхі Талуцкага Дома народнай творчасці Ніна Кавалік і Тамара Гіль прынялі ўдзел у другім абласным свяцеконкурсе "Матчыны кросны".**

Ён прайшоў 1 чэрвеня ў Старых Дарогах. Жанчыны атрымалі дыпломы за высокае прафесійнае майстэрства ў галіне традыцыйнага ткацтва і за лепшы ўзор посцілкі.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Камарова – у «Часе мясцовым»

**МЯДЗЕЛ. У выхадныя здымачная група праграмы Беларускага тэлебачання «Час мясцовы» прыязджала ў Камарова.**

Сустракаліся з людзьмі і ў гэтай вёсцы, і ў навакольных, шмат ездзілі на Блакітныя азёры. Суправаджаў іх мясцовы краязнаўца **Іван Драўніцкі**. Праграму мяркуюць паказаць у нядзелю, 16 чэрвеня.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Мядзельшчына прыме джазавы фестываль

**МЯДЗЕЛ. У Купе пройдзе джазавы фестываль. Яго ініцыятар мастацкі кіраўнік-дырэктар Дзяржаўнага аркестра Беларусі Міхаіл Фінберг.**

Мяркуецца, што фестываль адбудзецца 21 чэрвеня, на адкрытай пляцоўцы каля цеплахода на Нарачы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## З Будслава – з кубкам

**МЯДЗЕЛ. Яшчэ адзін сувенір з'явіўся да Будслаўскага фэсту.**

Гэта кубак, на адным баку якога выява касцёла, на другім – старадаўні алтар.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Новая кніга пра Крэва

**СМАРГОНЬ. З'явілася ў продажы кніга дырэктара Крэўскага краязнаўчага музея і настаўніка замежнай мовы Аляксандра Камінскага "Пад хвалямі Крэўскага мора".**

Гэта гістарычна-краязнаўчыя нарысы пра Крэва. Тыраж кнігі 299 экземпляраў, выдавец – рэдакцыя альманаха "Куфэрак Вілейшчыны".

У кнігу ўвайшлі публікацыі Аляксандра Камінскага, якія раней пабачылі свет у "Рэгіянальнай газеце" і альманаху "Куфэрак Вілейшчыны".

**Ала СТРАШЫНСКАЯ, Вольга ПІЛІПЕНКА.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Касцёл у Крэве.**

# Пад шапкай Гугуцэ

**МАЛАДЗЕЧНА. Калі вы ніколі не былі ў Кішынёве, то не можаце ведаць пасапраўднаму шчырасць і ветлівасць малдаван. Нам – Мінскаму абласному тэатру лялек "Батлейка" – пашчасціла вось ужо другі раз наведаць Малдову і прадстаўляць нашу родную Беларусь на Міжнародным фестывалі тэатраў лялек.**




**Калектыў лялечнага тэатра «Батлейка» на гастролях у Малдове.**

Дарэчы кажучы, у малдаван так: калі ты сябар, то гэта назаўсёды. Так што спадзяёмся, што гэта наша не апошняя вандроўка на шчырую зямлю з вельмі добрымі традыцыямі. І такое меркаванне склалася не толькі ў нас. Усе госці з розных краін свету спяшаюцца трапіць на фестываль, які збірае сваіх сяброў "Пад шапкай гугуцэ" (Гугуцэ – гэта народны малдоўскі персанаж). У чым жа адрозненне гэтага фестывалю ад іншых?.. (Дазвольце выказаць наша суб'ектыўнае меркаванне накont аб'ектыўнай падзеі.)

Па-першае, збіраецца шмат розных краін з рознымі традыцыямі і ніхто не імкнецца падтасоўвацца пад чыйсьці выключны густ, а кожны хоча пазнаёміць гледачоў, а таксама журы з асаблівымі традыцыямі сваіх тэатраў.

Па-другое, фестываль не ператвараецца ў нейкія "Алімпійскія гульні", калі да ўвагі прымаецца толькі вынік – хто лепшы, таму што мастацтва – рэч спрэчная і вельмі суб'ектыўная, і выращыць, што было самым выключным і самым незвычайным амаль немагчыма, бо якім параметрам мераць – хуткасцю, спрытам, вышынёй, даўжынёй ці ў рэшце рэшт нейкім рэкордам?!

А можа, яшчэ ўстановім допінг кантроль!

Па-трэцяе (як ужо было сказана вышэй), фестываль у Кішынёве ў муніцыпальным тэатры "Гугуцэ" – гэта фестываль сяброўства, дабрыні і шчырага суперажывання за кожны калектыў, які выходзіць на тэатральныя падмосткі. А паглядзець было што: тэатр з Тайвані "Ван Ян" – са сваімі традыцыйнымі лялькамі; тэатр з Францыі "Маленькае люстэрка", які змог сумясціць усходніх лялек з заходнім гумарам (дарэчы, акцёры тры гады асвойвалі тэхналогію вырабу лялек з дрэва, якое культывуецца толькі ў Кітаі – канфліе); тэатр з Румыніі "Васілайкэ", у спектаклі якога проста заваражвала майстэрства акцёраў; тэатр з Малдовы "Лігурычы", у якім добра сумяшчаліся жывы вакал у стылі кантры, а таксама ўдалае пападанне ў маску лялькі; Адэскі тэатр лялек са своеасаблівым гумарам і захапляючым украінскім каларытам; тэатр з Расіі "Агніва", які вылучаўся арыгінальным рэжысёрскім рашэннем, незабыўным музычным і мастацкім увасабленнем усім добра вядомай казкі А.С.Пушкіна; а таксама мы – адзіны тэатр з Беларусі – паказвалі спектакль "Меч Анёла", які створаны на аснове аўтэнтычных тэкстаў народнага лялечнага тэатра (гэты спектакль – удзельнік Міжнароднага фестывалю ў Італіі, а таксама 3-га Міжнароднага фестывалю ў Мінску); маладзёжны тэатр з Малдовы, з выключнай самаадданасцю акцёраў сваёй працы; а таксама нельга не адзначыць гаспадароў гэтага фестывалю – муніцыпальны тэатр лялек "Гугуцэ", які з'яўляецца не толькі таленавітым творчым калектывам, а таксама і цудоўным арганізатарам свята для гасцей і гледачоў.

Па-чацвёртае, кожны калектыў адзначаецца памятным дыпломам за лепшы спектакль у розных прадстаўленых тэматыках. І мы мяркуем, што гэта правільна... На кожным спектаклі была поўная зала гледачоў, якія не шкадавалі сваіх апладысментаў для артыстаў, рэжысёраў, мастакоў і для ўсіх людзей, намаганнямі якіх атрымліваецца цуд узнікнення спектакля. Бо людзі мастацтва сваёй адданасцю справе і жыццю ствараюць гісторыю сусветнага тэатра лялек.

Скажаце – дзіва? Мы таксама здзіўляліся, але вельмі хацелася верыць, што людзі тэатра могуць і павінны быць трапяткімі ў адносінах да сваіх калег і іх працы, якая прыносіць асалоду гледачам.

На прыканцы дазвольце парадавацца і за сябе. Наш спектакль "Меч Анёла" быў адзначаны дыпломам за лепшы спектакль на рэлігійную тэматыку і прапаганду гуманізму. Так што спадзяёмся, што і мы запісалі маленькі радок у гісторыю сусветнага тэатра лялек.

**Таццяна ЧАЕЎСКАЯ, артыстка тэатра.**

## І покуль музыка гучала

**СМАРГОНЬ. Без перабольшвання, на высокай ноце прайшоў тут VII Міжнародны конкурс камерных ансамбляў імя М.-К. Агінскага.**

Гэта адзначалі ўсе: і юныя музыканты з Беларусі, Літвы, Малдовы, Польшчы, і члены журы, і найперш гледачы, якія шэсць конкурсных дзён перапаўнялі гарадскі Дом культуры. Па словах старшыні журы прафесара Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь **Юрыя Гільдзюка**, было вельмі складана вызначыць лепшых – настолькі моцныя выканаўцы сабраліся на гэты раз у Смаргоні. Дыпломамі першай ступені ў сваіх узроставых групах былі адзначаны квартэт Магілёўскага вучэбнага комплексу гімназіі-каледжа музыкі і харэаграфіі і камерны ансамбль Беларускай акадэміі музыкі. Не засталіся без узнагарод іншыя таленавітыя музыканты.

Удзельнікі конкурсу раз'ехаліся з надзеяй зноў сустрэцца на гасціннай смаргонскай зямлі, якая ўжо даўно не правінцыя на музычнай карце Беларусі. На зямлі, над якой ужо колькі вякоў плывуць гукі славутага, шчымліва-аптымістычнага паланеза Міхала – Клеафаса Агінскага.

**Віталь АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Галоўнае, не перамога...

**ВАЛОЖЫН. З 31 мая па 2 чэрвеня ў Ракаве прайшоў мастацка-спартыўны фестываль.**

Было 20 каманд з усёй Беларусі. У асноўным прадстаўнікі з Мінска. Узрост удзельнікаў ад 18 да 50 гадоў. Мінскую вобласць прадстаўляла Маладзечанскае аб'яднанне клубаў "МАК – Маладзечна". У фестывалі каманда ўдзельнічала ўпершыню. Яе арганізатары **Валерый Траццяк і Жанна Ангерчык**.

Сакратар МАКа **Валянціна Траццяк**:

— Пакрыўдзіла, што некаторыя члены нашай каманды ў апошні момант адмовіліся ехаць.

А здзівіла, што на спартыўным мерапрыемстве спорту было пастолькі-паколькі.

У праграме было парадку 10 конкурсаў. Самы галоўны – апошні, музычны конкурс. Гэта нешта падобнае на КВЗ плюс бардаўская песня. Яе трэба было выканаць на спадручных сродках. Напрыклад, на тазіках, лыжках, дзверцамі машыны барабанілі. Да яго дайшлі дзевяць мацнейшых каманд.

Маладзечанцы ў дзевятку не трапілі. Толькі за выкананне народнай песні 1-е месца атрымалі. І заахвочвальны прыз як маладой камандзе.

**Ірына РАБУШКА.**

## Дзеці адпачнуць у бальніцы

**ВАЛОЖЫН. Летам дзеці будуць адпачываць... у школах і бальніцы.**

Да такой высновы можна прыйсці, калі паслухаеш арганізатара валожынскага аддзела адукацыі **Валянціну Шакун**. Яна паведаміла, што стацыянарных аздараўленчых устаноў у іх няма. Усе летнікі базіруюцца ў школах і Вішнеўскай участковай бальніцы.

Плануецца аздаравіць 1051 дзіця раёна. Дзеці будуць тут кругласутачна. З іх 280 чалавек забірае Валожынская школа-інтэрнат для дзяцей-сірот. Усе астатнія будуць адпачываць у агульнаадукацыйных школах. У дзённых летніках аздаравіцца 952 чалавекі. Аздараўленчы летнік санаторнага тыпу "Сонейка" на базе Вішнеўскай участковай бальніцы пачаў працаваць першым. Змена адкрылася ў нядзелю, 2 чэрвеня.

Ва ўсіх летніках змены працягваюцца па 18 дзён.

**Ірына РАБУШКА.**

# Размова з паэтам пра паэзію і жыццё

**СМАРГОНЬ. На мінулым тыдні, аб чым паведамляла наша газета, завітала да нас вядомая паэтка, якая жыве ў нашым абласным цэнтры, Данута Бічэль-Загнетава.**

Слухачы, якія сабраліся ў чытальнай зале цэнтральнай бібліятэкі, пытанняў задавалі паэтцы няшмат, бо варта было толькі падумаць: "А запытаюся я аб гэтым ці аб тым...". І адразу Данута Янаўна нейкім чароўным чынам пачынала распавядаць і "пра тое", і "пра гэта", і пра іншыя шматлікія цікавыя рэчы. Напрыклад, пра тое, як яна супрацоўнічала ў газеце "Гродзенская праўда" з Васілём Быкавым: "Днямі ён працаваў у рэдакцыі, ноччу пісаў свае творы. Маладыя паэты прыходзілі да яго, і ён даваў нам агульны накірунак творчасці. Не разбіраючы падрабязна верш, вельмі цікава ацэньваў яго. Сказаў мне аднойчы: "Ты напісала гэта, быццам вядзерца суніц набрала, невялікае, але поўнае, з верхам". Не ведаю, у якім ён зараз стане, але па той інфармацыі, што даходзіць, мне здаецца – яму цяжка".

Была знаёма Данута Янаўна і з Ларысай Геніюш, якая вельмі ўразіла сваім расповедам пра Прагу, пра ГУЛАГ: "Я тады зразумела, што ёсць дзве гісторыі – тая, што ў школе, і іншая – сапраўдная. Ларыса Геніюш была паэтка купалаўскага накірунку. З тых, хто не працуе над вершам. У такіх людзей ён (верш) выбухае, як вулкан, як вал...".

Вельмі шмат распавядала Данута Янаўна пра сутнасць паэзіі і твораў: "Лёс паэта доўгі і нудны. Яго б'юць, пінаюць, што не такі. А ты, здаецца, і не хочаш быць іншым. Так само атрымліваецца. Асяроддзе не дарує яму яго асаблівасці. Нават родныя, нават сябры хочуць, каб ты быў падобны да іх... Ускладняе стан паэта і тое, што мову паэтычную трэба перакладаць, каб пра цябе даведаліся ў іншых краях. Музыкантам, мастакам, спевакам лягчэй. А мова задарагая для рынку. Тут трэба шукаць добрых перакладчыкаў, укладаць вялікія грошы. Рэдка калі здараецца, што дзякуючы выключна паэзіі робіцца багатымі і знакамітымі".

Вельмі цікава і жыва падзялілася з прысутнымі сваімі ўражаннямі пра паэта, якога не так даўно адкрыла для сябе, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Чэслава Мілаша. Ён паляк, нарадзіўся ў суседняй Літве, родная мовай яго была руская. Карацей кажучы, блізкі нам па ўсяму. Адрознівае ад нас тое, што эмігрыраваў у Амерыку і там здолеў стаць неверагодна знакамітым: "Гэта незвычайны паэт. Проста выключны. Паехаў у ЗША з пустымі рукамі. Чытаў студэнтам універсітэта ў Берклі лекцыі пра творчасць Дастаеўскага. Паралельна пісаў вершы, а потым сам перакладаў іх на ангельскую. І ўсе зразумелі, што ён вялікі. Ён, між іншым, казаў, што вытрымаў эміграцыю, бо кожны дзень быў п'яны. Вядома ж, піў добрае віно... Калі атрымаў Нобелеўскую прэмію, яго адразу прынялі ў Клуб лаўрэатаў 16-м сябрам. І далі месца перад універсітэтам для паркоўкі аўто. Мілаш паехаў за мяжу з пустымі рукамі і зарабіў маёнтак літаратурай. Зараз выходзіць з друку яго апошні зборнік "Мае размовы з Богам". А між іншым, у мінулым годзе ён адзначыў сваё 90-годдзе...".

Нездарма Данута Янаўна расказала пра гэту кнігу Чэслава Мілаша, бо тэма Бога ёй вельмі блізкая – зараз яна працуе ў беларускіх каталіцкіх часопісах " Наша вера" і "Ave Maria". Піша рэлігійныя вершы. Але гэта зусім не азначае, што яна больш нічым не цікавіцца. "Зараз чытаю 4-томнік Іосіфа Бродскага. Ён такі пладавіты. Добра яго вершы кладуцца на маю душу, прыемна мне яго чытаць. І адначасова я адчуваю – мы вельмі розныя. Ён гарадскі, а я з вёскі. Я некалі напісала:

Усе мы з вёсак,
Усе мы з хат...

Дарэчы, гэта не найлепшы варыянт, тое, што мы з хат. Напэўна, трэба ўжо ісці ў бізнес, у Еўропу. А мы ўсе сядзім па вёсках, у лапцях. Але, з другога боку, мне здаецца, прагрэс загубіў нас. Раней нашы продкі мелі толькі самае неабходнае – працавалі, спявалі і не співаліся. Была такая пара ў Беларусі. А калі правялі электрычнасць – мы і скончыліся. Можа, нам прагрэс не патрэбны? Мы ж з язычнікаў, з паганаў...".

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**




## Ідзе падпіска на другое паўгоддзе

Каб не застацца без "Рэгіянальнай газеты", лепшы спосаб – падпісацца на яе. Гэта можна зрбіць у любым паштовым аддзяленні рэспублікі. Навіны рэгіёна, тэматычныя старонкі па медыцыне, садаводству і агародніцтву, гісторыі, экалогіі, прывабная праграма тэлеперадач, рэклама і аб'явы – усё гэта вы заўсёды можаце знайсці на старонках нашй газеты.

Падпісная цана на месяц – 1306 рублёў (індывідуальная), 4607 (ведамасная).

**З любоўю да вас, "Рэгіянальная газета".**

# Вытворцы мэблі працуюць на замежжа

### Гістарычная даведка

**Сумеснае Беларуска-германскае прадпрыемства па выпуску мэблі з масіву сасны (MMZ) арганізавана ў кастрычніку 1989 года. Заснавальнікамі яго з'яўляюцца вытворчае лесагаспадарчае аб'яднанне і Маладзечанскі завод металаканструкцый, з беларускага боку, і машынабудаўнічая фірма Gre Con, што ў горадзе Альфельд, з нямецкага боку. MMZ падраздзяляецца на дзве вытворчасці: лесапільную, якая знаходзіцца ў Крупках, і маладзечанскую, дзе з дошак робяць мэблю.**

Дырэктар маладзечанскай вытворчасці – **Васіль Курган**:

— Звычайна выкарыстоўваем лес Мінскай вобласці. Аб гэтым просіць наш мінскі заснавальнік. Хаця ў Віцебскай вобласці сасна лепшая.

Самі шукаем пакупнікоў. І вырабляем тое, што хочуць яны. Некаторыя, нават, малюнкі паказваюць.



У цэху прадпрыемства MMZ. Раніца. Жанчыны працуюць да сёмага поту. Фота Ірыны РАБУШКІ.

На беларускі рынак не працуем. Па-першае, няма плацежаздольных пакупнікоў, якія маглі б оптам закупляць і плаціць грошы. Па-другое, мода на мэблю з сасны да нас яшчэ не прыйшла. Нашым падавай цёмны масіў дуба ды яшчэ з рознымі прыбамбасамі.

У замежжы пік на сасновую мэблю прайшоў. Але за кошт нізкай цаны і высокай якасці мы трымаемся на ўзроўні.

У іншаземцаў свой густ на мэблю. Немцам падабаюцца простыя, плаўныя формы. Падобныя на іх датчане. Французы бліжэй да рускіх. Любяць складаны профіль.

Перайсці на выраб мэблі з іншага дрэва вельмі складана. Усё абсталяванне прыстасаванае для сасны. Гэта наша спецыялізацыя.

На прадпрыемстве тры ўчасткі. Працуюць у дзве змены. На адным з іх — у тры. Ад трэцяй змены мяркуем адмовіцца, бо нявыгадна.

А наогул, прадпрыемства прыбыльнае. Але з-за жорсткага рынку рэнтабельнасць зніжаецца. Стараемся павялічваць аб'ём вытворчасці. Складана летам. Попыт на прадукцыю падае. Іншаземцы ўсё аддаюць на адпачынак. Заказы павялічваюцца да пачатку навучальнага года, Каляд.

Цяпер, у маі, давялося 150 чалавек адправіць у водпуск.

Галоўны эканаміст **Алена Герасімава**:

— За 13 год упершыню правяліліся. Думаю, што летні перыяд усяму віна. У маі прыйшлося павялічыць асартымент на 18 адзінак, замест 3-4 звычайных штомесячных.

У чэрвені будзем працаваць пры поўнай загрузцы. Ліпень – невядома. Ніякіх прадпасылак таго, што мы станем на калені, няма. Але зараз ніхто не можа даць 100-працэнтную гарантыю.

### У цэху

Цішыня. Шмат свету. Водар хвоі. Як быццам , у сапраўдны лес трапіла. Дошкі ў стосы складзены. А пад імі, як пад пянькамі, ласуюцца рабочыя.

Інжынер аддзела кадраў **Аляксандр Вырва**:

— Абед у іх зараз. Куды на 30 хвілін вырвешся. Цяжка і дрэнна тут працаваць таму, хто прыйшоў з "савецкіх " арганізацый. Раней усе гаварылі: "Гэта не маё". І тут, канешне, не іхняе. Але трэба працаваць, як мае быць. З кожнага спытаюць.

Цішыню парушыў шум. Рабочыя надзелі навушнікі. Перапынак скончыўся.

Усяго на прадпрыемстве працуе 646 чалавек. У 2002 годзе плануецца павялічыць да 716 .

**Ірына РАБУШКА.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 30 мая | 6 чэрвеня |
|---|---|---|
| Долар | 1767,00 руб. | 1777,00 руб. |
| ЕЎРА | 1644,02 руб. | 1666,29 руб. |
| Злоты | 435,70 руб. | 441,90 руб. |
| Літ | 476,19 руб. | 482,62 руб. |
| Расійскі рубель | 56,44 руб. | 56,66 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1760 – 1770 руб. | 1790 – 1810 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 29.05 | 5.06 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2950 | – |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 10200 | 10500-12700 |
| Сасіскі, 1 кг | 2100-3700 | 2135-4900 |
| Селядзец, 1 кг | 2300 | 2300 |
| Рыс, 1 кг | 650-920 | 650-920 |
| Грэчка, 1 кг | 510-560 | 510-560 |
| Цукар, 1 кг | 740 | 740 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 700-880 | 700-880 |
| Алей, 1 л | 1500-1900 | 1400-1950 |
| Маянэз, 200 г | 350-400 | 340-350 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1900 | 1900 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 600 | 600 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 650 | 580 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 750-1200 | 900-1100 |
| Капуста, 1 кг | 600-1200 | 900-1500 |
| Лімоны, 1 кг | 2100 | 1800-2000 |
| Апельсіны, 1 кг | 1500 | 1200-1500 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1200-2000 | 1500-2000 |
| Масла, 1 кг | 3500 | 3500 |
| Тварог, 1 кг | 900-1300 | 1300-1700 |
| Малако, 1,5 л | 500 | 500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000-1200 | 1300-1400 |
| Бульба, 1 вядро | 2000-2700 | 2400-2600 |
| Клубніцы, 1 кг | | 2500 |

# Курыныя кумпячкі забаранілі

**МАЛАДЗЕЧНА. З 4 чэрвеня на рынках нельга прадаваць курыныя кумпячкі. Такое ўказанне дала ветэрынарная служба Беларусі.**

У Маладзечне замест курыных кумпячкоў з'явіўся танны індычыны фарш імпартнай вытворчасці.

Выконваючы абавязкі начальніка гарадской ветэрынарнай станцыі **Юльян Леановіч** гаворыць, што забаронены ўвоз усяго польскага мяса, продаж кумпячкоў імпартнага паходжання.

**Ірына РАБУШКА.**

# Зноў будуецца СШ 14

**МАЛАДЗЕЧНА. Будаўніцтва СШ №14, якое было спынена ў сакавіку 2002 года, зноў працягваецца.**

Так , у маі з абласнога бюджэту было выдзелена 600 мільёнаў рублёў, а ў чэрвені плануецца атрымаць 725 мільёнаў. Як расказаў начальнік ААТ "ПМК-212", якое з'яўляецца генпадрадчыкам, **Леанід Селезень**, сёння вядзецца мантаж будынка, які плануюць закончыць 15-20 чэрвеня. Пасля пачнуць рабіць унутраную абліцоўку, уставяць вокны і сантэхніку.

— Калі сродкі з бюджэту будуць прыходзіць як у гэтыя два месяцы, закончым будаўніцтва да новага навучальнага года, — дадаў ён.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### АНОНС

**14-16 чэрвеня ў раёне санаторыя "Плёсы" (прафілакторый вытворчага аб'яднання "Электрамодуль") адбудзецца гарадскі турыстычны злёт калектываў фізвыхавання горада.**

У праграме злёту:
- начное арыентаванне,
- дзіцячая паласа перашкод,
- міні-футбол,
- канцэрт турыстычнай песні і гумару.

Запрашаюцца любыя каманды.

**Сяргей БЯЛКОЎ, дырэктар турклуба "Пілігрым".**

■ АДЗІНЫ РУБЕЛЬ

# Крэдыт самім сабе

**Урады Беларусі і Расіі так і не здолелі вырашыць пытанне, якое актыўна абмяркоўвалася на пасяджэнні Савета Міністраў Саюзнай дзяржавы, пра эмісійны цэнтр.**

Як паведамляе радыё «Рацыя», у плане сумесных дзеянняў па ўвядзенню адзінай валюты на перыяд 2001-2005 гадоў пытанне эмісійнага цэнтра не закранаецца. Разам з тым незалежныя эксперты гавораць, што «ўсе размовы пра эмісійны цэнтр - пусты гук. Агульнай грашова-крэдытнай палітыкі ў Беларусі ды Расіі няма, і да 2005 года яна пры цяперашнім кіраўніцтве наўрад ці з'явіцца». Пра гэта заявіў эканаміст Валерый Дашкевіч. Акрамя таго, ён прагназіруе, што крэдыт у 100 млн. USD, нібыта выдаткаваны Беларусі ўрадам Расіі, пойдзе на скасаванне пазык расійскім прадпрыемствам. «Балючае» для Беларусі пытанне збору ўскосных падаткаў таксама нявырашанае.

Дакумент, падпісаны ў Маскве прэм'ерамі Беларусі і Расіі ды прадстаўнікамі Цэнтрабанка РФ і Нацбанка РБ, акрэслівае крокі, якія павінны ажыццявіць урады і банкі Беларусі і Расіі для таго, каб у 2005 годзе выйсці на ўвядзенне адзінай грашовай адзінкі. Як патлумачыў расійскі прэм'ер Міхаіл Касьянаў, гаворка ідзе аб рэалізацыі комплекснай праграмы па забеспячэнню адзіных прынцыпаў бюджэтнай і эканамічнай палітыкі, а таксама адзіных прынцыпаў падаткаабкладання, адзінай цэнавай палітыкі. Касьянаў дадаў, што гаворка ідзе таксама пра стварэнне адзінай мытнай прасторы і агульнай тарыфнай палітыкі.

Адной з прынцыповых умоў увядзення адзінай грашовай адзінкі Расіі называе бездэфіцытныя бюджэты і аднолькавыя прынцыпы функцыяніравання цэнтральных банкаў. Касьянаў асабліва падкрэсліў, што Нацбанк не павінен крэдытаваць прамысловасць і ўвогуле эканоміку.

Для Беларусі ў цяперашняй сітуацыі гэтае патрабаванне такое ж рэальнае як снег улетку: агульнай практыкай стала латанне эканамічных дзірак пры дапамозе крэдытаў Нацбанка.

Акрамя таго, нявырашаным застаецца прынцыповае пытанне эмісійнага цэнтра і мэханізмаў, пры дапамозе якіх Беларусь будзе здольна ўплываць на манетарную палітыку. З падпісанага плана мерапрыемстваў гэта тэма ўвогуле выпала. Спачатку Мінск патрабаваў існавання двух эмісійных цэнтраў, аднак цяпер пагаджаецца на адным, працягваючы патрабаваць доступ да друкарскага станка.

Незалежныя эканамісты скептычна ставяцца да падпісанага дакумента, заяўляючы, што пры цяперашнім кіраўніцтве Беларусь не здольна сінхранізаваць сваю крэдытна-фінансавую палітыку з расійскай і выканаць усе патрабаванні. Эканаміст Валерый Дашкевіч заявіў «Рацыі», што Расія ніколі не пагодзіцца на тое, каб Беларусь уплывала на працу яе грашовага станка.

Паводле Валерыя Дашкевіча, адзінай грашова-крэдытнай палітыкі няма і бліжэйшым часам не прадбачыцца. Гэты незалежны беларускі эканаміст канстатуе, што Расія вучыцца лічыць грошы, і ў гэтым няма нічога дзіўнага. Нават міжурадавы крэдыт - 100 млн. долараў, які нібыта выдаткавала Расія, пойдзе, як прагназіруе Дашкевіч, на пакрыццё пазык расійскіх прадпрыемстваў:

– Расія дае крэдыт для таго, каб беларускія прадпрыемствы разлічыліся з расійскімі. Гэта перш за ўсё крэдыт самім сабе - сваім прадпрыемствам, але праз беларускі бюджэт.

Яшчэ адно пытанне, якога так і не здолелі вырашыць урады дзвюх краін, - збор ускосных падаткаў па краіне прызначэння. Беларусь шмат страціла ад увядзення новых расійскіх правілаў. Меркавалася, што адпаведнае пагадненне будзе падпісана ў час знаходжання ў Маскве беларускага прэм'ера. Аднак беларускаму ўраду чарговым разам далі зразумець, што грошай на інтэграцыю ў Расіі няма.

**Паводле радыё «Рацыя».**

# Трактары не вырашылі здзелку

**СМАРГОНЬ. Прадпрымальнікі з Барысава "прэзентавалі" для аднаго з ІТРаўцаў мясцовага агрэгатнага завода два міні-трактары "МТЗ-083".**

Той у сваю чаргу абяцаў паспрыяць у набыцці для дзелавых людзей рознай мінітэхнікі. Падарунак "каштаваў" больш за тры мільёны рублёў.

Пра падобны факт даведаліся аператыўнікі са Смаргонскага міжрайаддзела Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй, якія і ўзбудзілі крымінальную справу па факту хабару.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

# У Мядзеле не стала кандуктараў

**МЯДЗЕЛ. З 1 чэрвеня на гарадскіх маршрутах у райцэнтры ўвялі талонную сістэму аплаты за праезд замест кандуктараў.**

Тлумачыцца гэта тым, што менш стала пасажыраў (цяплынёй шмат хто стаў хадзіць на работу пешшу, ды і заняткі ў школах закончыліся). Таму кандуктараў стала трымаць нявыгадна.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

«РГ»-СТАТЫСТЫКА

# Беспрацоўе ў раёне

| | Колькасць беспрацоўных на 1 мая | Узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1697 (-39) чал. | 2,79 % |
| Маладзечанскі раён | 343 (+9) чал. | 1,38 % |
| Астравецкі раён | 392 (-55) чал. | 2,68 % |
| Ашмянскі раён | 163 (+2) чал. | 0,9 % |
| Валожынскі раён | 202 (-4) чал. | 0,94 % |
| Вілейскі раён | 587 (+31) | 1,82 % |
| Мядзельскі раён | 294 (-27) чал. | 1,5 % |
| Смаргонскі раён | 1130 (-178) чал. | 3,22 % |

У дужках паказаны змяненні ў параўнанні з маем.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

